● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

8 кастрычніка 1996 г. аўторак, № 243 (23046)

# ЗВЯЗДА

### УВАГА! «ПРАМАЯ ЛІНІЯ»

**Паважаныя чытачы! На вашы пытанні адкажа міністр сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь Вольга Браніславаўна ДАРГЕЛЬ**

Сённяшні час, калі эканамічная, сацыяльная сітуацыя ў грамадстве, у краіне носяць надзвычай складаны характар, насельніцтва, кожны жыхар паасобку шукаюць адказы на многія і многія пытанні. І, як правіла, людзі, пераканаiы ў тым, што дзяржава павінна дапамагаць у вырашэнні ўсіх іх клопатаў

. Ці так яно на самай справе? Якія абавязкі мы ўсё ж дарэмна ўскладаем на дзяржаўныя плечы? Наколькі трывалая сёння заканадаўчая база для кожнага з нас паасобку? На вашы пытанні па гэтых і іншых праблемах **11 кастрычніка з 11 гадзін да 12.30** па тэлефонах 232-38-21 і 232-38-92 адкажа міністр сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь Вольга Браніславаўна Даргель. Папярэдне пытанні можна задаваць па тэлефонах: 268-28-72 і 268-27-51. Звяртайцеся таксама і пісьмова.

### ДАТУ ПРАВЯДЗЕННЯ РЭФЕРЭНДУМУ МОЖА ЗМЯНІЦЬ УСЕБЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ СХОД

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка лічыць прымальнымі кампрамісы адносна прапанаванага ім праекта паправак да Канстытуцыі. Аб гэтым ён заявіў у інтэрв'ю журналістам пасля наведвання ў мінулую суботу сталічнага мікрараёна Малінаўка.**

Цяперашнія нападкі на яго з боку розных палітычных сіл Аляксандр Лукашэнка лічыць беспадстаўнымі, паколькі прэзідэнцкі праект паправак прапанаваны пакуль толькі для ўсенароднага абмеркавання. «Канчатковы праект будзе разгледжаны на Усебеларускім народным сходзе і апублікаваны, — падкрэсліў Прэзідэнт. — Многія пазіцыі будуць зменены, і кампрамісы непазбежныя». Ужо на гэтым тыдні Прэзідэнт мае намер даць адказ на прапановы па папраўках да Асноўнага закона, якія падпісалі больш за сотню дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, ён на 99 працэнтаў згодны з гэтымі прапановамі.

Што датычыць даты рэферэндуму, то Прэзідэнт настойвае на правядзенні яго 7 лістапада. Але толькі ў тым выпадку, калі гэту дату не зменіць Усебеларускі народны сход, рашэнню якога, як сказаў Аляксандр Лукашэнка, яму «прыйдзецца падпарадкавацца». Пры гэтым кіраўнік дзяржавы асабліва падкрэсліў, што Днём Канстытуцыі па-ранейшаму застанецца 15 сакавіка. Што ж датычыць выказванняў камуністаў аб тым, што Прэзідэнт збіраецца адмяніць свята Кастрычніцкай рэвалюцыі, то Аляксандр Лукашэнка назваў гэта спробай пайграць на пачуццях пажылых людзей. Ніхто ні ў кога ніякіх свят забіраць не будзе, падкрэсліў Прэзідэнт.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**



## ПРЫ ТАКОЙ УВАЗЕ ПРЭЗІДЭНТА МАЛІНАЎКА Ў ХУТКІМ ЧАСЕ СТАНЕ АДНЫМ З ЛЕПШЫХ МІКРАРАЁНАЎ СТАЛІЦЫ

**У мінулую суботу Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка ўжо другі раз за гэты год наведаў сталічны мікрараён Малінаўка, дзе, як вядома, пражывае шмат перасяленцаў-чарнобыльцаў. Яго ўвагу тут прыцягнулі перш за ўсё аб'екты сацыяльнага прызначэння.**



Цяперашняе яго наведванне Малінаўкі пачалося з урачыстай і даволі неардынарнай падзеі. У гэты дзень быў здадзены ў эксплуатацыю шматкватэрны дом, у якім будуць жыць прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі сталіцы, якія стаялі доўгія гады ў чарзе на атрыманне жылля. Дзевяціпавярховы дом агульнай плошчай больш за 14 тысяч квадратных метраў пабудаваны па тыпавым праекце. Аднак ёсць у ім і адметныя асаблівасці: у кожнай з 249 кватэр устаноўлены лічыльнікі гарачай, халоднай вады і газу, а ў вокнах замест звычайнага шкла — вакуумныя шклопакеты.

Гісторыя гэтага будынка вельмі цікавая. Спачатку ён прызначаўся дэпутатам Вярхоўнага Савета, аднак з-за недахвату сродкаў будаўніцтва затармазілася. Тады ў пачатку бягучага года было прынята рашэнне аб яго пераводзе ў распараджэнне Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта і бясплатным размеркаванні кватэр сярод сталічнай творчай інтэлігенцыі.

Наступным аб'ектам, які наведаў Аляксандр Лукашэнка ў Малінаўцы, стала дзіцячая паліклініка. Праўда, тут абышлося без урачыстасцей: сваіх першых наведвальнікаў установа аховы здароўя пры́ме толькі к канцу бягучага года. Важнасць гэтага аб'екта ў інфраструктуры мікрараёна прымушае адшукваць сродкі для больш хуткага ўводу ў эксплуатацыю паліклінікі не толькі кіраўніцтва горада і Міністэрства аховы здароўя рэспублікі. Адміністрацыя Прэзідэнта выдзеліла для набыцця неабходнага дыягнастычнага і лячэбнага абсталявання 740 тысяч нямецкіх марак і 380 тысяч долараў ЗША. Пасля завяршэння будаўніцтва дзіцячай паліклінікі ў мікрараёне практычна поўнасцю будзе знята праблема забеспячэння яго жыхароў паслугамі аховы здароўя. Таму што Малінаўка з'яўляецца самым маладым сталічным мікраараёнам не толькі з-за свайго нядаўняга з'яўлення, але і з-за ўзросту яе жыхароў. Тут пражываюць каля 45 тысяч дзяцей, з якіх 3,5 тысячы — так званыя чарнобыльцы. Безумоўна, што ў новай паліклініцы, разлічанай на 480 наведванняў у змену, змогуць атрымаць больш кваліфікаваную медыцынскую дапамогу ўсе дзеці, якія маюць у ёй патрэбу.

Не менш важнай для жыхароў Малінаўкі з'яўляецца і новая АТС на 12 тысяч нумароў, якая ў гэты дзень была здадзена ў эксплуатацыю. Кіраўнік дзяржавы, які прыняў удзел ва ўрачыстым адкрыцці АТС, агледзеў яе памяшканні. Станцыя адносіцца да новага пакалення АТС і адрозніваецца ад сваіх папярэдніц тым, што на ёй выкарыстана лічбавае электроннае абсталяванне.

У гэты дзень Прэзідэнта ў Малінаўцы чакала яшчэ адна ўрачыстая падзея. Аляксандр Лукашэнка прыняў удзел у адкрыцці новага тралейбуснага маршруту, які звязаў Малінаўку-4 з іншымі раёнамі сталіцы. Гэта дасць магчымасць значна палепшыць транспартнае абслугоўванне ў гэтым жылым масіве.

Кіраўнік дзяржавы паведаміў у гутарцы з жыхарамі мікрараёна, што ўрадам цяпер вывучаецца магчымасць павышэння з 1 студзеня мінімальнай зарплаты. Праўда, Аляксандр Лукашэнка не назваў канкрэтных лічбаў, каб не даваць пустых абяцанняў. Усё залежыць ад таго, колькі сродкаў будзе ў бюджэце к канцу года. У той жа час Прэзідэнт адзначыў, што рост зарплаты стрымлівае неабходнасць пакрыцця з бюджэту расходаў насельніцтва па аплаце камунальных паслуг.

Кіраўнік дзяржавы таксама паведаміў, што ён мае намер унесці змяненні ў свой указ, які датычыць жыллёвага будаўніцтва ў рэспубліцы. На думку Прэзідэнта, існуючы тэрмін пагашэння крэдытаў на жыллё — 20 гадоў — малы нават для людзей з сярэднім дастаткам. Калі тэрмін выплаты будзе павялічаны, то ў тых, хто атрымаў крэдыты, паявіцца магчымасць выплачваць усяго толькі ад 3 да 5 мільёнаў рублёў у год.

**Аксана ПІВАВАР, Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

## У БЕЛАРУСІ НЕ МОЖА ПАЎТАРЫЦЦА МАСКОЎСКАЯ СІТУАЦЫЯ 1993 ГОДА

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка сустрэўся 7 кастрычніка ў сваёй рэзідэнцыі з кіраўнікамі ветэранскіх арганізацый рэспублікі. Гэта мерапрыемства паклала пачатак серыі сустрэч кіраўніка дзяржавы з прадстаўнікамі грамадскасці, якія будуць прысвечаны выпрацоўцы канчатковага варыянта прапанаваных Прэзідэнтам для абмеркавання на рэферэндуме дапаўненняў і змяненняў у Канстытуцыю з улікам пададзеных заўваг і прапаноў.**

Прывітаўшы кіраўнікоў ветэранскіх арганізацый, Аляксандр Лукашэнка папрасіў прабачэння, што не змог з імі сустрэцца раней. «Вельмі шмат цяпер праблем у народнай гаспадарцы, ды і вельмі напружаная палітычная сітуацыя, — сказаў ён. — У грамадстве нагнятаецца атмасфера: маўляў, у нас паўтараецца маскоўская сітуацыя 93-га года. Гэта гучыць проста абсурдна. Нічога падобнага ў нас, у прынцыпе, быць не можа і ніколі не будзе».

На думку Прэзідэнта, у краіне няма сур'ёзнага канфлікту паміж рознымі галінамі ўлады. Аднак пэўныя палітычныя супярэчнасці існуюць, ёсць спробы ўзбунтаваць грамадства. «Я на гэта гляджу спакойна і спрабую рабіць так, — сказаў Аляксандр Лукашэнка, — каб гэты шум тут, у вярхах, і закончыўся».

Аднак, як адзначыў Прэзідэнт, яго праціўнікі зразумелі, што ў спакойнай атмасферы ім цяжка будзе выйграць, і таму вырашылі процідзейнічаць больш актыўна. Як вядома, у дзень, калі пройдзе Усебеларускі народны сход, апазіцыя мае намер правесці свой альтэрнатыўны кангрэс. «Але ў апазіцыянераў нічога не атрымліваецца, людзі ў іх кангрэсе ўдзельнічаць не хочуць, хіба што прыхільнікі БНФ і тыя, хто ім спачувае, — сказаў Аляксандр Лукашэнка. — Апазіцыя прапрацоўвае яшчэ адзін варыянт — правесці наперакор Усебеларускаму народнаму сходу мітынг, шэсце і, як звычайна, паралізаваць рух на вуліцах, справакаваць сутыкненні 19 кастрычніка. Такія акцыі апазіцыя плануе ажыццявіць і ў дзень правядзення рэферэндуму. Ёсць пэўныя асобы, якім проста неабходна, каб у краіне было неспакойна. А тое, што нашай апазіцыі чым горш, тым лепш, я дакладна засвоіў, яшчэ калі быў дэпутатам парламента. Яе пазіцыя ясная: трэба скінуць Прэзідэнта, заняць яго месца. Я да гэтага нармальна стаўлюся — гэта палітычная барацьба. Але гэта нармальна, калі ідзе барацьба за інтарэсы народа, а не за ўладу».

Затым удзельнікі сустрэчы перайшлі да абмеркавання пададзеных у адпаведную камісію прапаноў і заўваг, якія датычаць змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю нашай краіны.

**Віктар КУКЛОЎ, БЕЛТА.**

### ДА НАС ЕДЗЕ ЧАРНАМЫРДЗІН?

Як паведаміла інфармацыйная крыніца ў Маскве, у бліжэйшы час Беларусь наведае расійскі прэм'ер-міністр Віктар Чарнамырдзін. Мэта яго бліцвізіту — не толькі маючы адбыцца рэферэндум па Канстытуцыі, які выклікаў надзвычай жорсткую барацьбу выканаўчай і заканадаўчай галін улады, але ў значнай ступені наша запазычанасць Расіі за энерганосьбіты.

У Міністэрстве замежных спраў інфармацыю не пацвердзілі і не абверглі — там пра гэта проста не ведаюць. Магчыма, і не ведаюць. У прэс-службе Кабінета Міністраў сказалі, што да іх ужо дайшлі чуткі пра візіт В. Чарнамырдзіна. Але калі ён і прыедзе, то толькі не на гэтым тыдні.

**Леанід ПЯТРОЎ.**

### *АДНЫМ СКАЗАМ*

Па прыблізных падліках, больш чым **дзве тысячы наркаманаў** Светлагорска з'яўляюцца сёння **носьбітамі ВІЧ-інфекцыі,** хаця афіцыйна выяўлены 432 выпадкі.

У навукова-даследчых інстытутах **колькасць** навуковых работнікаў пасля 1991 года скарацілася прыблізна **на 35 працэнтаў.**

У дыме **цыгарэты** ўтрымліваюцца прынамсі **43 шкодныя рэчывы,** якія выклікаюць ракавыя захворванні ў чалавека.

**У 90 працэнтах** выпадкаў паведамленні аб НЛА аказваюцца розыгрышамі або памылковым успрыманнем з'яў, якія можна растлумачыць, але **10 працэнтаў** з'яў сапраўды патрабуюць таго, каб над імі паламалі галовы.

*ТРАГЕДЫЯ*

### ПАРА ПЕНСІЯНЕРАЎ КІНУЛАСЯ ПАД ЦЯГНІК

Позна вечарам у Баранавіцкі аддзел унутраных спраў на транспарце паступіла паведамленне аб тым, што на 822-м кіламетры перагону Негарэлае—Стоўбцы пад электрацягнік Стоўбцы—Мінск кінуліся пенсіянеры — муж і жонка. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ва Упраўленні ўнутраных спраў на транспарце, абодва яны загінулі пад коламі цягніка. Акалічнасці і прычыны трагедыі высвятляюцца.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

### З ДНЁМ НАСТАЎНІКА ПЕДАГОГАЎ ПАВІНШАВАЛІ НЕ ТОЛЬКІ ВУЧНІ І РОДНАЕ МІНІСТЭРСТВА, АЛЕ І ПРЭЗІДЭНТ

**Урачысты сход, прысвечаны Дню настаўніка, адбыўся напярэдадні свята ў Рэспубліканскім палацы культуры «Юнацтва». Павіншаваць настаўнікаў сюды прыйшлі Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, міністр адукацыі і навукі Васіль Стражаў, старшыня галіновага прафсаюза Тамара Чобатава, мэр сталіцы Уладзімір Ярмошын, а таксама вучні мінскіх школ.**

Выступаючы на сходзе з дакладам, міністр спыніўся не толькі на існуючых у галіне праблемах, сярод якіх ён назваў нізкую зарплату педагогаў, няхватку новых навучальных дапаможнікаў, устарэлае абсталяванне і заняпад матэрыяльна-тэхнічнай базы школ, перагрузку вучняў, але і адзначыў новыя перспектыўныя сістэмы адукацыі ў святле школьнай рэформы, якая пачалася ў краіне. Васіль Стражаў падкрэсліў, што пачатковы этап рэфарміравання школы ўжо завершаны. Аднак міністэрству і самім педагогам яшчэ шмат трэба будзе зрабіць, каб пераход на дванаццацігадовае навучанне ў школах стаў рэальнасцю і наблізіў айчынную сярэднюю адукацыю да еўрапейскіх стандартаў. Паводле слоў міністра, асаблівае значэнне павінна быць удзелена грамадзянскаму выхаванню вучняў. І цяпер распрацоўка агульнадзяржаўнай праграмы выхавання пачалася ўжо. Васіль Стражаў заклікаў настаўнікаў падтрымаць Прэзідэнта краіны на рэферэндуме, а напярэдадні яго правядзення весці работу па растлумачэнню новага праекта Канстытуцыі краіны. Зрэшты, бяздумнае адабрэнне і падтрымка на рэферэндуме, як адзначыў сам Прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка, яму не патрэбны. Выступаючы перад настаўнікамі, ён падкрэсліў, што спадзяецца на іх шчырае разуменне пазіцыі кіраўніка дзяржавы і той палітычнай сітуацыі, якая склалася сёння ў рэспубліцы.

Гаворачы аб становішчы ў сферы адукацыі, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што Праграма сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі да 2000 года прадугледжвае стабільнае фінансаванне сферы адукацыі. Да 1 студзеня павінна быць распрацавана рэформа аплаты працы педагогаў, каб работа настаўніка дастойна ўзнагароджвалася з улікам яе інтэлектуальнага творчага зместу, якасці і вынікаў. Спыніўшыся на правядзенні школьнай рэформы, Прэзідэнт заклікаў работнікаў галіны не разбурыць у яе працэсе існуючай дзяржаўнай сістэмы адукацыі. Канцэпцыя рэформы, на яго думку, яшчэ патрабуе дэталёвага абмеркавання сярод педагагічнай грамадскасці, каб не паўтарыць памылак, што ўжо зроблены ў іншых краінах СНД.

Прыняты закон «Аб правах дзіцяці», распрацаваны Нацыянальны план дзеянняў да 2000 года па ахове дзіцяці, Прэзідэнтам падпісана распараджэнне аб мерах па паляпшэнню жыццядзейнасці дзіцячых інтэрнатаў і спецыяльных установаў, створана Нацыянальная камісія па правах дзіцяці. Усё гэта дасць магчымасць стварыць дзейсную сістэму работы з дзецьмі і здыме многія «дзіцячыя» праблемы ў дзяржаве, падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка.

Вырашэнне ж важных грамадска-палітычных праблем у многім залежыць ад вынікаў маючага адбыцца рэферэндуму. Прэзідэнт краіны ў сваім выступленні ўдзяліў вялікую ўвагу і гэтаму пытанню, якое стаіць сёння на парадку дня жыццядзейнасці дзяржавы. Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што, патрабуючы ад яго выканання тых або іншых задач, перш за ўсё трэба надзяліць Прэзідэнта адпаведнымі паўнамоцтвамі. Дзеючая ж Канстытуцыя абмяжоўвае магчымасці кіраўніка дзяржавы кіраваць краінай так, як ён гэта лічыць неабходным.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

## УКАЗ
### ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
№ 395

**Аб мерах па рацыянальнаму выкарыстанню і забеспячэнню захаванасці маёмасці вызваляемых ваенных гарадкоў, аб'ектаў і будынкаў Міністэрства абароны**

У мэтах аператыўнага вырашэння пытанняў аб рацыянальным выкарыстанні маёмасці вызваляемых ваенных гарадкоў, аб'ектаў і будынкаў, забеспячэння іх захаванасці пастанаўляю:

1. Зацвердзіць прыкладаемы пералік вызваляемых ваенных гарадкоў, аб'ектаў і будынкаў, перадаваемых бязвыплатна Міністэрствам абароны ў камунальную ўласнасць абласцей, горада Мінска і ў распараджэнне цэнтральных органаў кіравання Рэспублікі Беларусь.

Міністэрству абароны, аблвыканкомам, Мінскаму гарвыканкому ў месячны тэрмін забяспечыць здачу-прыёмку аб'ектаў, будынкаў і маёмасці ўказаных ваенных гарадкоў.

Міністэрства абароны нясе адказнасць за захаванасць указанай дзяржаўнай маёмасці, што знаходзіцца на яго балансе, ажыццяўляе перадачу гэтай маёмасці, уключаючы абсталяванне, інвентар, камплекты тэхнічнай дакументацыі і матэрыялы інвентарызацыі.

2. Міністэрству фінансаў забяспечыць фінансаванне затрат, звязаных з утрыманнем аб'ектаў жыллёва-камунальнай гаспадаркі і сацыяльнай сферы ваенных гарадкоў, аб'ектаў і будынкаў, перадаваемых у камунальную ўласнасць, на падставе разлікаў аблвыканкомаў і Мінскага гарвыканкома, а таксама расходаў Міністэрства абароны на падрыхтоўку тэхнічнай дакументацыі і матэрыялаў інвентарызацыі перадаваемых ваенных гарадкоў.

3. Вызваліць аблвыканкомы, Мінскі гарвыканком, юрыдычных і фізічных асоб ад выплаты падаткаў на нерухомую маёмасць, зямлю перадаваемых у адпаведнасці з гэтым Указам ваенных гарадкоў, аб'ектаў і будынкаў, а таксама збору на ўтрыманне дзяржаўнай пажарнай службы тэрмінам на два гады з дня іх перадачы.

4. Аблвыканкомам і Мінскаму гарвыканкому выкарыстаць прадастаўленае заканадаўствам права ўласніка:

на ўстанаўленне цэн на рэалізуемыя аб'екты, будынкі і маёмасць ваенных гарадкоў;

на перадачу ў бязвыплатнае карыстанне аб'ектаў, будынкаў і маёмасці ўказаных гарадкоў юрыдычным і фізічным асобам (у тым ліку замежным інвестарам) пад афармленыя дагаворам абавязацельствы па стварэнню рабочых месцаў;

на спісанне аб'ектаў, будынкаў і маёмасці з наступным выкарыстаннем атрыманых матэрыялаў (у выніку дэмантажу і разборкі) для гаспадарчых патрэб абласцей і горада Мінска, а таксама для іх рэалізацыі.

5. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

2 кастрычніка 1996 г.
г. Мінск.

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, пераважна без ападкаў, месцамі туман. Тэмпература паветра ў Віцебску — 11—13, Магілёве, Мінску — 12—14, Гомелі, Гродне — 13—15, Брэсце — 14—16 градусаў.

У наступныя двое сутак надвор'е істотна не зменіцца, толькі 10-га ўдзень па поўначы пройдуць невялікія дажджы. Тэмпература ўначы — 2—7, 9-га на ўсходзе рэспублікі магчымы замаразкі да мінус 1 градуса; удзень 9-га — 13—18, 10-га — 10—15 градусаў цяпла.



# У СУПРАЦОЎНІЦТВЕ БЕЛАРУСІ З РАСІЙСКАЙ ПОЎНАЧЧУ ПРЫБАВІЛАСЯ ЦЕПЛЫНІ

**У мінулыя выхадныя расійскі горад Мурманск адзначыў сваё 80-годдзе. Ва ўрачыстасцях, прысвечаных гэтай даце, па запрашэнню кіраўніцтва рэгіёна прыняла ўдзел і афіцыйная дэлегацыя Беларусі на чале з прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгіром.**



*Сустрэча Міхаіла ЧЫГІРА на вялікім атамным ракетным крэйсеры «Адмірал Ушакоў».*

На сустрэчах з кіраўнікамі адміністрацый горада і вобласці, з камандаваннем Чырванасцяжнага Паўночнага флоту адбыліся перамовы аб расшырэнні гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва паміж нашай рэспублікай і гэтым рэгіёнам Расіі. Паводле слоў беларускага прэм'ера і кіраўніка адміністрацыі Мурманскай вобласці Яўгена Камарова, цесныя сувязі, якія раней існавалі, за апошнія гады па вядомых прычынах аслаблі. Пастаўкі сюды прадукцыі з рэспублікі скараціліся ў некалькі разоў. І, як адзначыў Міхаіл Чыгір, цяпер ёсць усе магчымасці для аднаўлення адносінаў. Тым больш, заўважыў Я. Камароў, рэгіён вельмі зацікаўлены ў вырабах і прадуктах харчавання з Беларусі. Яны добрай якасці і таннейшыя, чым з Нарвегіі і Фінляндыі. Да таго ж, на яго думку, пры фарміраванні цаны ў многім станоўча адаб'юцца прамыя кантакты ў рамках адзінай мытнай прасторы і адсутнасць «накрутак» пасрэднікаў.

У выніку перамоў быў прыняты сумесны зварот да старшыні ўрада Расійскай Федэрацыі Віктара Чарнамырдзіна, які падпісалі прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір, кіраўнік адміністрацыі Мурманскай вобласці Яўген Камароў і камандуючы Чырванасцяжным Паўночным флотам Алег Ерафееў. У ім гаворыцца, што для развіцця ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва бакі разгледзелі магчымасць значнага павелічэння пастаўкі, у першую чаргу для патрэб маракоў, тавараў і харчавання з Беларусі ў Мурманскую вобласць у парадку разлікаў за «блакітнае паліва», якое пастаўляе РАТ «Газпром» у рэспубліку.

На перамовах вызначаны таксама і канкрэтныя шляхі паглыблення супрацоўніцтва. Прадугледжваецца ўжо ў першым квартале наступнага года адкрыць у Мурманску рэгіянальнае аддзяленне гандлёвага прадстаўніцтва Беларусі ў Расіі і адміністрацыі рэгіёна ў Мінску. Будзе таксама аказана падтрымка сумеснаму беларуска-расійскаму прадпрыемству «Белнорд» выдзяленнем яму ўжо ў гэтым месяцы на ўмовах ільготнай арэнды амаль тысячы квадратных метраў гандлёвай плошчы. У бліжэйшай будучыні ў сталіцы рэспублікі з'явіцца фірменны рыбны магазін прадпрыемстваў рэгіёна, а ў Мурманскай вобласці — цэнтр сервіснага абслугоўвання вытворчага аб'яднання «БелаўтаМАЗ». З 11 па 16 лютага ў паўночным горадзе пройдуць выстаўка беларускіх тавараў і Дні культуры нашай рэспублікі.

У цэлым жа візіт у Мурманск быў вельмі плённым для беларускай дэлегацыі. Аб гэтым яго ўдзельнікі гаварылі і ў эксклюзіўным інтэрв'ю карэспандэнту БЕЛТА.

**Міхаіл МАРЫНІЧ, міністр знешніх эканамічных сувязей:**

— Вялікая цікавасць праяўлена і да нашых тавараў шырокага спажывання. Мы прыйшлі да высновы аб расшырэнні аптовай сеткі. Напярэдадні гэтага візіту Міхаіл Чыгір падпісаў распараджэнне аб адкрыцці ў рэгіёнах Расіі нашых гандлёвых прадстаўніцтваў, якія стануць добрым сувязным звяном паміж пастаўшчыкамі і спажыўцамі. І я веру, што літаральна праз год-два за кошт пашырэння рэгіянальнага супрацоўніцтва мы амаль у пяць разоў скароцім адмоўнае гандлёвае сальда з гэтай краінай.

**Пётр КАЗЛОЎ, міністр гандлю:**

— Асноўны вынік візіту — узаемнае жаданне паглыбляць сувязі. Для нас гэта добрыя рынкі збыту прадукцыі вёскі, лёгкай прамысловасці, атрымання рыбнай прадукцыі па прымальных цэнах. Арганізаваная ў Мурманску выстаўка-кірмаш беларускіх тавараў паказала, што яны карыстаюцца папулярнасцю ў мясцовага насельніцтва.

**Мікалай ПАЦКЕВІЧ, намеснік старшыні Мінгарвыканкома:**

— У мінулым годзе мы падпісалі дагавор аб супрацоўніцтве паміж Мінскам і Мурманскам. Сталі адным з заснавальнікаў «Белнорда». Але выходзіць на рэгіёны Расіі кожнаму прадпрыемству паасобку вельмі цяжка. Таму тут неабходна аб'ядноўваць намаганні і пастаўляць тавары вялікімі партыямі.

*Мінск—Мурманск—Мінск.*

**Міхаіл ЖУРАВОВІЧ, БЕЛТА.**

## Удзельнікам Міжнароднага конкурсу музыкантаў-выканаўцаў «Фартэпіяна. Мінск-96»

Дарагія сябры!

З прыемнасцю адзначаю, што менавіта ў сталіцы Рэспублікі Беларусь адбываецца гэта значная падзея: упершыню на гасціннай беларускай зямлі праводзіцца Міжнародны конкурс музыкантаў-выканаўцаў «Фартэпіяна. Мінск-96», у якім прымаюць удзел больш як 100 маладых выканаўцаў з 14 краін свету.

Для ўсіх вас — гэта выдатная магчымасць праявіць свой талент і артыстызм, заваяваць прызнанне аўтарытэтнага журы, любоў і прыхільнасць публікі. А для лаўрэатаў конкурс можа стаць пачаткам вялікага плённага шляху на сусветную канцэртную эстраду.

Не выпадкова наша рэспубліка распачынае прафесіянальную конкурсную дзейнасць з конкурсу піяністаў. У апошнія гады маладыя беларускія выканаўцы, атрымаўшы вялікую колькасць прэмій і ўзнагарод, сур'ёзна заявілі аб беларускай фартэпіяннай школе ў розных кутках свету.

У гэтым ім дапамагаў і ў далейшым будзе дапамагаць спецыяльны фонд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.

Віншую ўсіх вас з гэтым цудоўным святам музыкі і жадаю моцнага здароўя, шчасця і творчых здзяйсненняў.

У добры шлях, дарагія канкурсанты!

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

## БЕЛАРУСКІЯ ВУЧОНЫЯ ЭМІГРЫРУЮЦЬ ПЕРАВАЖНА Ў ЗША І ІЗРАІЛЬ

Падчас апытання, праведзенага Інстытутам сацыялогіі Акадэміі навук Беларусі сумесна з Дзяржаўнай міграцыйнай службай Міністэрства працы, выяўлена, што з навуковых работнікаў і выкладчыкаў вышэйшых навучальных устаноў, якія звольніліся ў 1991—1995 гады, за мяжу на пастаяннае месца жыхарства выехала каля трохсот чалавек. З іх 26 дактароў навук і 114 кандыдатаў навук.

Вучоныя-эмігранты аддаюць перавагу выезду ў ЗША (38 працэнтаў). Трэць (32 працэнты) абралі месцам свайго пастаяннага жыхарства Ізраіль. Кожны дзесяты (10 працэнтаў) паехаў у Расію, 7 працэнтаў — у Германію, 3 працэнты — у Канаду.

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ, БелаПАН.**

## СПОРТ-ЭКСПРЭС

*ФУТБОЛ. АДБОРАЧНЫ МАТЧ ЧЭМПІЯНАТА СВЕТУ-98*

### ЭСТОНЦЫ СВЯТКАВАЛІ ПЕРАМОГУ ПРАЗ 59 ГАДОЎ

**Няўдачнай аказалася паездка Нацыянальнай зборнай Беларусі па футболу на адборачны матч у Эстонію. Нашы прайгралі з лікам 0:1, чым значна пагоршылі сваё турнірнае становішча ў чацвёртай адборачнай групе. Дарэчы, эстонцы не выйгравалі ў матчах такога ўзроўню аж з 1937 года. Тады прыбалты выйгралі ў фінаў з такім жа лікам. Так што перамога з інтэрвалам у 59 гадоў яўна радуе эстонцаў.**

У групе № 4 прайшла яшчэ адна сустрэча. Зборная Латвіі прайграла дома шатландцам 0:2 і цяпер адпраўляецца ў Беларусь, дзе заўтра сустрэнецца з падначаленымі Сяргея Бароўскага.

9 кастрычніка пройдуць яшчэ дзве сустрэчы: Швецыя — Аўстрыя, Эстонія — Шатландыя.

**Турнірная табліца ў ґрупе № 4**

| | Ґ | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Швецыя | 2 | 2 | 2 | 0 | 7-2 | 6 |
| 2. Шатландыя | 2 | 1 | 1 | 0 | 2-0 | 4 |
| 3. Эстонія | 2 | 1 | 0 | 1 | 1-1 | 3 |
| **4. Беларусь** | **3** | **1** | **0** | **2** | **2-6** | **3** |
| 5. Аўстрыя | 1 | 0 | 1 | 0 | 0-0 | 1 |
| 6. Латвія | 2 | 0 | 0 | 2 | 1-4 | 0 |

Больш удала (1:1) згуляла наша маладзёжная каманда. Праўда, для эстонцаў нічыйнае ачко стала першым у гісторыі маладзёжнага футбола краіны ў матчах такога ўзроўню.

Пасля трох сустрэч беларусы з сямю ачкамі ўзначальваюць турнірную табліцу. Каб да вясны застацца ў лідэрах, нашым трэба абавязкова выйграць матч у равеснікаў з Латвіі, які адбудзецца на сталічным стадыёне «Дынама» 10 кастрычніка.

*ГАНДБОЛ. АДБОРАЧНЫ МАТЧ ЧЭМПІЯНАТА СВЕТУ-97*

### ІЗРАІЛЬЦЯНЕ ЎЗЯЛІ РЭВАНШ

Толькі адзін мяч вырашыў лёс сустрэчы ў адказ паміж зборнымі Ізраіля і Беларусі ў рамках адборачнага турніру да чэмпіянату свету-97. Гаспадары выйгралі 26:25 і ўзялі рэванш за паражэнне 19:35, якое яны пацярпелі ад беларусаў 2 кастрычніка ў Мінску.

Цяпер падначаленых Спартака Мірановіча чакае нялёгкі паядынак з галандцамі, які пройдзе 30 кастрычніка ці 1 лістапада ў Краіне цюльпанаў. Горад, дзе сустрэнуцца зборныя, пакуль не вызначаны.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

***

У Мінску прайшоў адкрыты чэмпіянат Беларусі па каратэ-до з удзелам каманд Расіі, Літвы і, натуральна, беларускай зборнай. У індывідуальным ката (абавязковай праграме) першынствавалі Святлана Вількіна (Ірбіс-БДПА, Мінск) і Сяргей Шарыкаў (НІСА , Віцебск), у індывідуальным куміте (паядынках) не было роўных Дзмітрыю Шарстнёву з пінскага клуба «Эдэльвейс». А ў камандных спаборніцтвах першае месца ў клуба Ірбіс-БДПА. Дарэчы, напярэдадні прайшоў семінар «Развіццё каратэ ў Беларусі і Усходняй Еўропе», у якім прымала ўдзел прадстаўнічая дэлегацыя з Бельгіі на чале з генеральным сакратаром Сусветнай і Еўрапейскай асацыяцыі шатакан каратэ-до (уладальнік 5-га дана) сэнсэем Даркам дэ Мітсам.

***

Ва Усходнееўрапейскай хакейнай лізе адбыліся чарговыя сустрэчы. Іх вынікі: «Цівалі» (Мінск) — «Энергія» (Электрэнай, Літва) — 5:1, 8:2, «Алімпія» (Польшча) — «Юнацтва» (Мінск) — 5:3, 3:2, «Палімір» (Наваполацк) — «Нёман» (Гродна) — 6:2, 5:3.

### АЎТОБУСУ БЕЛАРУСКІХ БІЯТЛАНІСТАЎ «ПРЫРАБІЛІ ЛЫЖЫ»

Не паспелі кіраўнікі Федэрацыі біятлона Беларусі налюбавацца новенькім мікрааўтобусам «Фольксваген», перададзеным ім па ўмовах кантракта адной фірмай, як днямі машыне, выказваючыся на прафесіянальнай мове «страляючых лыжнікаў», «прырабілі лыжы».

Аўтобус Федэрацыя атрымала ў пятніцу, а ў панядзелак яго ўжо скралі. Тым больш крыўдна, што здарылася ўсё гэта сярод белага дня амаль у самым цэнтры Мінска.

**Алесь СІВЫ.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### ЧАЧНІ НЕ БУДЗЕ ПРАДАСТАЎЛЕНА НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

Барыс Ельцын яшчэ раз заявіў, што Чачні не будзе прадастаўлена незалежнасць. Пра гэта паведаміў кіраўнік адміністрацыі дэпартамента ўрада Расіі Сяргей Сцяпашын падчас выступлення на канале НТБ. Паводле яго слоў, Ельцын сказаў, што тэрытарыяльная цэласнасць Расіі не можа быць прадметам перамоў з чачэнскім кіраўніцтвам. Сцяпашын таксама паведаміў, што міністр замежных спраў Расіі Прымакоў папярэдзіў паслоў некалькіх дзяржаў у Маскве, што калі іх краіны правядуць сепаратныя перамовы з Чачнёй або прызнаюць яе незалежнасць, то Расія можа разарваць з імі дыпламатычныя адносіны. Напярэдадні начальнік штаба сіл чачэнскага апалчэння Масхадаў заявіў, што ставіць зараз пытанне аб тым, ці застанецца Чачня ў саставе Расіі, не мае сэнсу. Выступаючы ў праграме «Сам-насам» грамадскага расійскага тэлебачання, Масхадаў падкрэсліў, што Чачня ніколі не ўваходзіла ў састаў Расіі.

### ТАЛІБЫ ПРАЦЯГВАЮЦЬ НАСТУПАЦЬ

Генерал Дустум, чые войскі кантралююць 6 правінцый на поўначы Афганістана, звярнуўся да кіраўніцтва «Талібана» з заклікам спыніць ваенныя дзеянні, папярэдзіўшы, што ў адваротным выпадку атакуе талібаў. Талібы працягваюць наступленне на пазіцыі ўрадавых войскаў пад камандаваннем Шах-Масуда, якія ўмацаваліся ў даліне Пандшэр. Кіраўніцтва «Талібана» заявіла, што не пойдзе на перамовы з Масудам, але не жадае ўступаць і ў канфлікт з Дустумам. У раёне стратэгічна важнага перавалу і тунеля Саланг працягваецца процістаянне талібаў і войскаў Дустума. Дустум накіраваў для аховы перавалу дадатковыя падраздзяленні, у тым ліку танкі і цяжкую артылерыю. На нядаўняй нарадзе ў Алма-Аце лідэры ўсходне-азіяцкіх краін СНД выказалі глыбокую занепакоенасць становішчам у Афганістане.

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС».**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Як сцвярджае статыстыка, у амерыканскім штаце Фларыда жывуць 14 мільёнаў грамадзян і адзін мільён алігатараў. Пры гэтым алігатары ў апошні час проста разышліся. Яны дазваляюць сабе забірацца ў сажалкі, на прысядзібныя ўчасткі мясцовых жыхароў, а то і ў плавальныя басейны. Штогод паліцыя рэгіструе 13 тысяч выклікаў з нагоды знаходжання кракадзілаў у недазволеных месцах і 18 — нападу паўзуноў на людзей. З 1948 года 6 жыхароў штата алігатары заелі да смерці. Усхваляваныя ўлады выпусцілі брашуру на тэму аб мірным суіснаванні з кракадзіламі, у якіх утрымліваюцца карысныя парады. Галоўная з іх — не прыкормліваць алігатара.

**РЭЙТЭР**

**Амерыканскі танк часоў другой сусветнай вайны «Шэрыдан» вывозяць на цягачы з тэрыторыі ваеннай базы ЗША форт Макой у штаце Віскансін. Хутчэй за ўсё, такім жа чынам вывозілі танк гэтай мадэлі раскрадальнікі маёмасці, дзеянні якіх раскрылі следчыя ФБР і ваеннай пракуратуры. Мяркуючы па ўсім, гэта буйнейшы вядомы ў ЗША крадзеж ваеннай маёмасці. Агульная сума ўкрадзенай маёмасці склала 17 мільёнаў долараў. З базы, акрамя танка, «звялі» 17 БМП з ракетнымі ўстаноўкамі і больш за сотню адзінак іншай ваеннай тэхнікі — джыпы, цяжкія грузавікі і нават аэрадромны снегаачышчальнік.**

**АСАШЫЭЙТЭД ПРЭС**

Сама не ведала што рабіла амерыканская сям'я, якая гадавала ў доме бірманскага пітона.

Мэры-Анна Картэр аднойчы прачнулася ад таго, што вялікі трохметровы паўзун поўнасцю абвіў яе і нават хацеў заглынуць. Спачатку жонку спрабаваў вызваліць муж, які з дапамогай нажа намагаўся аслабіць абдымкі рэптыліі, аднак дасягнуў таго, што пітон скруціў і яго.

Каб выратаваць людзей, змяю давялося, на жаль, забіць, і толькі пасля гэтага ўдалося вызваліць з палону мужа і жонку.

**ЭКСТРА-ПРЭС.**

ЖЫЦЦЁ

# БЕЛАРУСКАЯ ВЕНЕЦЫЯ



**В** *ЁСКУ ЛІСНА некалі можна было параўнаць з Венецыяй. Падабенства ў тым, што жыццё тут і там — сярод вады. Масткі, прыстані і процьма лодак. Яшчэ гадоў 20 назад гэтае параўнанне больш адпавядала б рэальнасці, калі гэтае суседства вады і людзей мела свой непаўторны лад і парадак... Водныя шляхі вырашалі ці не ўсе бытавыя праблемы ліснянцаў. Ці ў балоты па ягады, ці ў госці да сватоў, ці ў краму па хлеб — вядома, на лодках. Не кажучы пра рыбную справу. А жанчына — на вёслах альбо з вудамі — ніякая не з'ява, а звычайнасць, як снег зімою.*

*З незапамятных часоў, калі абапал рэчкі Свольна, дзе зліваецца яна з возерам Лісна, пасяліліся людзі, вельмі рэдка калі наступалі мёртвыя сезоны. Хіба што ў выніку бязлітасных войнаў. На жаль, перспектыва ў Лісна цяпер незайздросная. Сацыялістычная рэчаіснасць грунтоўна падкасіла яе маладую здаровую аснову, пакінуўшы самнасам з жорсткай стыхіяй быцця.*

*Немагчыма ўявіць Венецыю іншай — без лодак і без людзей. На жаль, гэта не пра нашу беларускую Венецыю.*

**Анатоль КЛЯШЧУК.**
**Фота аўтара.**








## ЗАКОН
## Рэспублікі Беларусь
### Аб унясенні дапаўнення ў Закон Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1996 год»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Дапоўніць Закон Рэспублікі Беларусь ад 19 красавіка 1996 года «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1996 год» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 13-14, арт. 165) артыкулам $8^1$ наступнага зместу:

«Артыкул $8^1$. Устанавіць, што прадпрыемствам і арганізацыям, якія маюць запазычанасць па падатках, што ўтварылася да 1 ліпеня 1996 года (у далейшым — запазычанасць), прадастаўляецца адтэрміноўка па яе пагашэнню, а пеня па запазычанасці і штрафы спісваюцца.

Для атрымання адтэрміноўкі па выплаце запазычанасці прадпрыемствы і арганізацыі ўсіх форм уласнасці да 15 кастрычніка 1996 года прадстаўляюць у тэрытарыяльныя органы Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь заявы аб прадастаўленні адтэрміноўкі. Тэрытарыяльныя падатковыя органы ў пяцідзённы тэрмін з дня падачы заявы абавязаны прадставіць у абласныя або Мінскі гарадскі органы Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі даведку аб памеры агульнай сумы запазычанасці заяўніка, якая ўтварылася да 1 ліпеня 1996 года, з указаннем памераў запазычанасці ў бюджэты розных узроўняў.

Рашэнне аб прадастаўленні прадпрыемствам і арганізацыям адтэрміноўкі па выплаце запазычанасці прымаецца абласнымі або Мінскім гарадскім органамі Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі ў дзесяцідзённы тэрмін з дня атрымання дакументаў у бясспрэчным парадку. Рашэнне аб прадастаўленні адтэрміноўкі прадпрыемствам і арганізацыям прадстаўляецца ў адпаведны тэрытарыяльны падатковы орган для ажыццяўлення кантролю за своечасовасцю і паўнатой унясення адтэрмінаваных плацяжоў і з'яўляецца падставай для спісання пені па адтэрмінаваных плацяжах і штрафаў.

Прадпрыемствы і арганізацыі, якім прадастаўлена адтэрміноўка па выплаце запазычанасці, што ўтварылася да 1 ліпеня 1996 года, выплачваюць 50 працэнтаў ад агульнай сумы запазычанасці ў перыяд з 1 кастрычніка 1997 года па 1 красавіка 2000 года штоквартальна па 5 працэнтаў ад агульнай сумы запазычанасці.

Адтэрмінаваныя плацяжы размяркоўваюцца паміж бюджэтамі розных узроўняў прапарцыянальна долі запазычанасці прадпрыемстваў і арганізацый.

Парадак і тэрміны выплаты 50 працэнтаў, якія засталіся ад агульнай сумы запазычанасці, устанаўліваюцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь».

2. Гэты закон уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

4 верасня 1996 г., г. Мінск.
№ 569-XIII.

## НА ПАСЯДЖЭННІ ЦЭНТРВЫБАРКОМА ЧАКАЕЦЦА СУР'ЁЗНАЯ РАЗМОВА

Як паведаміла БЕЛТА прэс-група Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў, 9 кастрычніка адбудзецца чарговае пасяджэнне Цэнтрвыбаркома. У яго парадак дня ўключана пяць пытанняў.

На пасяджэнне камісіі плануецца запрасіць кіраўнікоў міністэрстваў і ведамстваў, іншых цэнтральных органаў кіравання, прадстаўнікоў мясцовых уладаў. Чакаецца сур'ёзная размова па ўсяму комплексу пытанняў, якія датычаць арганізацыі і правядзення дадатковых паўторных выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета і рэспубліканскага рэферэндуму. Будзе заслухана паведамленне міністра фінансаў Паўла Дзіка аб фінансаванні выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета, назначаных на 24 лістапада 1996 года.

Улічваючы важнасць атрымання насельніцтвам дакладнай інфармацыі аб двух праектах змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, Цэнтрвыбарком плануе заслухаць старшыню Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Рыгора Кісяля аб прымаемых ім мерах па забеспячэнню аднолькавых умоў па асвятленню на тэлебачанні і радыё пытанняў, унесеных на рэспубліканскі рэферэндум Прэзідэнтам рэспублікі і дэпутатамі Вярхоўнага Савета.

**БЕЛТА.**

*ПОГЛЯД*

## КАМУНІСТЫ ДУМАЮЦЬ ПРА БЕЛАРУСЬ

**Вынікам пашыранага пленума Цэнтральнага Камітэта Партыі камуністаў беларускай, які адбыўся 5 кастрычніка ў Мінску, была прысвечана прэс-канферэнцыя Сяргея Калякіна, Васіля Новікава, Алены Скрыган і Тамары Мануковай. Яна прайшла ўчора ў Вярхоўным Савеце**

Галоўнай тэмай пленума ЦК ПКБ, на якім прысутнічала каля 200 чалавек, у тым ліку і кіраўнікі раённых арганізацый партыі, стала абмеркаванне пазіцыі камуністаў адносна маючага адбыцца 24 лістапада рэферэндуму па сямі пытаннях, якія ініцыіравалі Прэзідэнт і парламент. Такім чынам, ПКБ выпрацавала тактыку сваіх паводзінаў падчас падрыхтоўкі і правядзення ўсенароднага галасавання. Вядома, рашэнне пленума не можа прымусіць кагосьці з радавых камуністаў галасаваць так ці інакш па прапанаваных пытаннях. Тым не менш, Сяргей Калякін падкрэсліў, што ЦК ПКБ заклікае сваіх аднадумцаў і прыхільнікаў выказацца супраць чатырох пытанняў, якія прапанаваў Прэзідэнт: адносна праекта змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь; адносна продажу зямлі; адносна пераносу Дня незалежнасці з 27 на 3 ліпеня і адносна адмены смяротнага пакарання.

Як адзначыў першы сакратар ЦК ПКБ, такое рашэнне абумоўлена тым, што, папершае, прэзідэнцкі праект Канстытуцыі па сутнасці з'яўляецца прабуржуазным і антыдэмакратычным, усталёўвае ўладу адной асобы; па-другое, ПКБ выступае супраць ператварэння зямлі ў тавар; патрэцяе, камуністы лічаць Днём незалежнасці Рэспублікі Беларусь 1 студзеня 1919 года, па-чацвёртае, яны ўпэўнены, што ва ўмовах сённяшняй сацыяльнай сітуацыі смяротнае пакаранне павінна застацца.

Адначасова Калякін заклікаў падтрымаць і прагаласаваць за прапановы парламента: за праект Канстытуцыі, які ліквідуе інстытут прэзідэнцтва, за абавязковае выбранне кіраўнікоў мясцовых выканаўчых органаў непасрэдна народам і за галоснасць пры фінансаванні ўсіх галін улады выключна за кошт бюджэту. Па выніках абмеркавання гэтых пытанняў пленум прыняў зварот да народа Беларусі, у якім камуністы сцвярджаюць, што яны ў сённяшняй сітуацыі не падтрымліваюць ні правыя сілы, ні Прэзідэнта, што яны за мір і згоду ў грамадстве.

«Трагізм сітуацыі абцяжарваецца тым, што разам з арганізацыяй і правядзеннем правымі палітычнымі сіламі вясной гэтага года масавых беспарадкаў сёння ініцыятарам абвастрэння ўнутрыпалітычнай сітуацыі выступіў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка, які прызначаны быць гарантам канстытуцыйнай законнасці, забеспячэння правоў і свабод грамадзян. Прапанаваныя ім змены і дапаўненні ў Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года ўзарвалі грамадска-палітычную абстаноўку», — гаворыцца ў звароце.

У дакуменце таксама ёсць і словы, адрасаваныя ўдзельнікам Усебеларускага народнага сходу: «Мы заклікаем удзельнікаў Усебеларускага народнага сходу не прымаць рашэнняў, якія могуць быць выкарыстаны для апраўдання магчымага канстытуцыйнага перавароту». Адначасова камуністы не з'яўляюцца прыхільнікамі правядзення альтэрнатыўнага кангрэса, маніфестацый і мітынгаў 19 кастрычніка, «падчас якіх могуць быць справакаваны масавыя беспарадкі з магчымымі чалавечымі ахвярамі і непрадказальнымі наступствамі».

Удзельнікі пленума ЦК ПКБ выступілі за вырашэнне канфліктаў шляхам дыялогу і пошукаў кампрамісу. Такім кампрамісам, на іх думку, можа быць стварэнне пагаджальнай канстытуцыйнай камісіі.

На прэс-канферэнцыі было паведамлена таксама, што Партыя камуністаў беларуская вылучыла 48 кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета на давыбары, якія адбудуцца таксама 24 лістапада. Акрамя таго на пленуме былі вырашаны і некаторыя кадравыя пытанні. У прыватнасці, «за дзеянні, накіраваныя на раскол у партыі», ад пасады сакратара ЦК быў вызвалены Віктар Чыкін. Аўтаматычна ён быў выведзены з саставу Бюро ЦК ПКБ, застаўшыся, такім чынам, шэраговым членам партыі.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## УЛАДЗІМІР СЯНЬКО Ў НЬЮ-ЙОРКУ І ВАШЫНГТОНЕ ПРАВЁЎ ВАЖНЫЯ ПЕРАГАВОРЫ

**У Нью-Йорку наш міністр замежных спраў прыняў удзел у агульнапалітычнай дыскусіі на 51-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, правёў прэс-канферэнцыю, на якой пазнаёміў прысутных з асноўнымі падыходамі Беларусі па яе дзейнасці ў ААН, выклаў свае погляды па важнейшых аспектах работы гэтай арганізацыі, расказаў пра палітычную сітуацыю ў Беларусі.**

Сваю дыпламатычную працу ён прадоўжыў у Вашынгтоне. Там ён сустрэўся з высокапастаўленымі прадстаўнікамі дзярждэпартамента, савета нацыянальнай бяспекі і міністэрства абароны Злучаных Штатаў.

Як паведамілі ў прэс-службе МЗС Беларусі, у ходзе гэтых перагавораў былі абмеркаваны пытанні далейшага развіцця і пашырэння ўсяго комплексу двухбаковых адносінаў паміж Беларуссю і ЗША. Уладзімір Сянько праінфарміраваў сваіх субяседнікаў аб неабходнасці і характары маючага адбыцца рэферэндуму.

Таксама былі абмеркаваны праблемы паглыблення і пашырэння сувязей у гандлёва-інвестыцыйнай сферы, шляхі магчымай дапамогі ЗША Беларусі ў правядзенні рыначных рэформаў. Закраналіся субяседнікамі і пытанні, якія звязаны з архітэктурай еўрапейскай бяспекі, праблематыкай пашырэння НАТО на ўсход і г.д. У ходзе гэтых не заўсёды лёгкіх дыскусій і перагавораў міністр Беларусі падкрэсліваў неабходнасць працягу двухбаковага і шматбаковага дыялогу па ажыццяўленню ініцыятывы Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі па стварэнню бяз'ядзернай прасторы ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе.

Сярод іншых сустрэч неабходна вылучыць гутарку Уладзіміра Сянько з адным з найбольш уплывовых сенатараў ЗША — Р. Лугарам (сааўтарам праграмы дапамогі былым рэспублікам СССР) і наведванне газеты «Вашынгтон пост», дзе міністр адказаў на шматлікія пытанні амерыканскіх журналістаў.

**Леанід ТУГАРЫН.**

# ТРЫБУНА ДЭПУТАТА



## АБ ПРАМЫСЛОВАЙ ПАЛІТЫЦЫ



**Стан прамысловых прадпрыемстваў рэспублікі выклікае трывогу не толькі іх калектываў, але і ўсяго грамадства. Прычым ураду ўсё цяжэй рабіць выгляд, што нічога асаблівага не адбываецца, хоць, як і раней, малююцца радасныя карціны будучага паляпшэння сітуацыі ўжо ў наступным годзе (глядзіце чарговую праграму па выхаду з крызісу да 2000 года). Гэтыя абяцанні народ чуе ўжо не адзін год, і гучней за ўсё — у моманты абвастрэння супярэчнасцей, калі апаненты вельмі ўжо дакучаюць сваімі пытаннямі і патрабаваннямі штосьці-небудзь рабіць.**

Няма ў нас прамысловай палітыкі, няма разумення працэсаў, якія адбываюцца, ёсць заклінанні і заспакаяльныя словы саноўнікаў. Як былы кіраўнік прамысловага аб'яднання, як дэпутат Вярхоўнага Савета, не магу не гаварыць аб гэтым, бо калі кіраўніцтвам краіны не будуць прыняты меры, мы рэзка ўскладнім становішча ў эканоміцы, што адаб'ецца на жыццёвым узроўні людзей.

Характарызуючы ўмовы, у якіх працуе прамысловасць, нельга не сказаць аб іх істотным пагаршэнні. Разбураны традыцыйны савецкі рынак з устойлівымі таварнымі патокамі, адкрытая мяжа знішчае значную частку нашых прадпрыемстваў з-за іх неэфектыўнасці, устарэлых тэхналогій. Праводзімая валютная і фінансава-крэдытная палітыка, заніжаная амартызацыя прывялі да induce перетоку капіталу з вытворчасці ў гандлёва-фінансавую сферу і наступнага яго вывазу з краіны. Дзеючае падатковае заканадаўства разбурае нават тыя вытворчасці, якія нядаўна эфектыўна працавалі, знішчае навуковыя і праектныя арганізацыі, г. зн. ператварае ў нішто «мазгі» нацыі, пазбаўляе эканоміку будучыні.

Парадаксальна, але факт, што пры існуючай падатковай сістэме ў выйгрышы засталіся матэрыялаёмістыя і энергаёмістыя вытворчасці, працаёмкія ж спусташаюцца падаткамі, значная частка якіх налічваецца на непрададзеную прадукцыю (сабекошт) і нявыплачаную зарплату. Паколькі прадукцыя не прададзена, сродкаў для выплаты падаткаў, натуральна, няма, і тады ўключаецца механізм санкцый, па сутнасці, механізм разбурэння.

Становішча ўскладняецца праводзімай валютнай палітыкай. Спынены курс долара і высокая інфляцыя за апошнія два гады літаральна спусташылі лепшую частку прамысловасці, што працуе на экспарт, у выніку на вачах пачаў расці дэфіцыт гандлёвага балансу, які склаў за 7 месяцаў гэтага года 872 млн. долараў ЗША. Вось ужо некалькі месяцаў існуюць розныя курсы долара ў адносінах да беларускага рубля: курс Нацыянальнага банка, па якім прадпрыемствы прадаюць валюту (напрыклад, па 14,5 тыс. руб. за долар), і курс камерцыйных банкаў, па якім купляюць (18,5 тысячы руб.). Розніца ў гэтым выпадку каля 30 працэнтаў. Па сутнасці, гэта яшчэ адзін дадатковы падатак на вытворцу ў памеры 30 працэнтаў ад абароту. Вытрымаць гэта могуць нямногія прадпрыемствы, якія працуюць, як правіла, на ўнутраным рынку. Прымяняць такія метады здольны толькі «временщики», галоўная задача якіх — пратрымацца лішні дзень на кіруючых пасадах. Неабходны закон, які паклаў бы канец самавольству ўладаў пры валютным рэгуляванні. Валютная палітыка павінна стымуляваць экспарцёраў, а не наадварот, як цяпер.

У выніку прадпрыемствы засталіся без абаротных сродкаў, крэдыторская запазычанасць на 1 ліпеня склала 82,7 трлн. рублёў, дэбіторская — 65,8 трлн., запазычанасць у бягучым годзе вырасла больш чым на 40 працэнтаў. Рэнтабельнасць за 6 месяцаў склала ўсяго 8,6 працэнта супраць 9,4 працэнта ў 1995 годзе. 26 працэнтаў прадпрыемстваў стратныя. Яны завінаваціліся бюджэту разам з пеняй і штрафамі, а таксама ў пазабюджэтныя фонды на 1 жніўня каля 10 трлн. рублёў, даходы бюджэту за паўгода склалі ўсяго 19,5 трлн. руб.

Замест прыняцця якіх-небудзь мераў па фінансаваму аздараўленню прадпрыемстваў, ліквідацыі яўнага абсурду пры правядзенні валютна-фінансавай палітыкі, палітыкі ў галіне падаткаабкладання прадпрыемствам прад'яўляюцца загадзя невыканальныя патрабаванні: захаваць колькасць і аб'ёмы выпускаемай прадукцыі, хоць няма рынку збыту; асвойваць новыя віды прадукцыі, хоць прадпрыемствы сёння не маюць сродкаў на гэтыя мэты (яны не маюць доступу і да крэдытных рэсурсаў). Дзяржава працягвае фіскальнае выбіванне з прадпрыемстваў падаткаў, амартызацыі, яно ўмешваецца і кантралюе ўсе гаспадарчыя рашэнні, у тым ліку і ў прыватных фірмах, не адказваючы пры гэтым за вынікі сваёй палітыкі.

Несумненна, патрэбна прадуманая, з улікам асаблівасцей рэспублікі стратэгія пераўтварэнняў у прамысловасці. Прычым нельга будзе рэалізаваць наогул якія-небудзь стратэгічныя ўстаноўкі без стварэння ўмоў для работы прадпрыемстваў на макраўзроўні, прававой асновы пераўтварэнняў, з улікам арыентацыі на работу ва ўмовах рынку. Вельмі важна стварыць умовы для фінансавага аздараўлення прадпрыемстваў, іх рэструктурызацыі.

Перш за ўсё неабходна вырашыць, што рабіць з крызісам неплацяжоў? Вярхоўны Савет прыняў Закон аб спісанні пені і штрафаў і адтэрміноўцы падатковай нядоімкі. Унесены папраўкі ў Закон аб каштоўных паперах і фондавых біржах, якія не толькі ствараюць прававую аснову для стварэння рынку каштоўных папер, але і даюць магчымасць для фінансавай рэструктурызацыі прадпрыемстваў. Унесеныя папраўкі ў Закон аб прыватызацыі адкрываюць магчымасці для іх маёмаснай рэструктурызацыі. Рыхтуецца Закон «Аб фінансавай рэструктурызацыі прадпрыемстваў і банкаў». Вельмі важна прыняць яго як мага хутчэй, каб даць магчымасць выратаваць хоць бы частку прадпрыемстваў ад фінансавага краху. Вельмі важна заканадаўча вызначыць механізм банкруцтва і санацыі прадпрыемстваў. Нельга ва ўмовах рынку заставацца без механізма ліквідацыі тромбаў у крывяносных сасудах эканомікі.

Не можа далей захоўвацца становішча, калі прадпрыемствы вымушаны трымаць лішнюю колькасць людзей. Тут вельмі важная дзяржаўная палітыка, накіраваная на развіццё прадпрымальніцтва, што не толькі дасць магчымасць істотна знізіць узровень беспрацоўя, але і зрабіць істотны ўплыў на ход маёмаснай рэструктурызацыі буйных прадпрыемстваў.

Такім чынам, калі падагульніць сказанае, каб рэалізаваць эфектыўную прамысловую палітыку, трэба стварыць неабходныя прававыя, палітычныя ўмовы і адпаведную інфраструктуру.

Што датычыць самой прамысловай палітыкі, нельга не сказаць, што да гэтага часу, нягледзячы на наяўнасць аднайменнага міністэрства, такой палітыкі дзяржава, на жаль, пакуль не выпрацавала.

Якой жа павінна быць прамысловая палітыка, якім чынам арганізаваць эфектыўную работу прамысловасці, як і што зрабіць, каб наша прамысловасць змагла канкурыраваць на сусветных рынках? Сусветны вопыт сведчыць, што невялікія прамысловыя краіны маюць некалькі буйных канцэрнаў, якія добра ведаюць у свеце. Возьмем, напрыклад, шведскі канцэрн «Volvo». У Беларусі яго прадукцыя (легкавыя аўтамабілі, пагрузчыкі) вядома многім. Сёння ў працэсе трансфармацыі ўласнасці можна і трэба стварыць, на маю думку, на добраахвотнай аснове больш дзесятка такіх канцэрнаў або прамысловых груп, якія маглі б арганізаваць сетку продажу ў свеце і рэальна кантраляваць свае сегменты рынку. Менавіта гэта пазіцыя павінна пераважаць пры прыняцці рашэння аб стварэнні такіх канцэрнаў ці прамысловых груп.

Арганізацыю прамысловых аб'яднанняў і груп павінна стымуляваць падатковая сістэма (кансалідаваныя падатковыя плацяжы), добрая матывацыя працы для вышэйшых кіраўнікоў. Прадпрыемствы, якія ўваходзяць у гэтыя канцэрны, неабходна акцыяніраваць з перадачай кантрольнага пакета акцый кіруючым трастававым кампаніям або ў траставае кіраўніцтва асобным людзям. Перадачу ў траставае кіраўніцтва такіх комплексаў можна было б праводзіць на конкурснай аснове. Буйныя прадпрыемствы і канцэрны маглі б стаць асновай прамысловых груп, у састаў якіх маглі б уваходзіць замежныя прадпрыемствы, перш за ўсё — стратэгічныя саюзнікі для пранікнення на рынак таго ці іншага рэгіёна свету.

Вельмі важна для значнай часткі нашых прадпрыемстваў пранікненне на рынкі развітых краін праз пастаўку туды дэталяў і камплектуючых. На вялікі жаль, з-за праводзімай валютнай, падатковай і экспартнай палітыкі, завышанага кошту энерганосьбітаў большасць нашых прадпрыемстваў сёння неканкурэнтаздольныя па цане. Трэба стымуляваць стварэнне пры такіх прадпрыемствах розных СП па вытворчасці дэталяў і камплектуючых. Падатковая палітыка павінна садзейнічаць іх экспарту.

Прадпрыемствы, якія працуюць на экспарт, у першачарговым парадку павінны быць падвергнуты рэструктурызацыі і фінансаваму аздараўленню. Пры гэтым нельга забываць, што з дзяржаўнымі прадпрыемствамі замежныя фірмы ствараць СП, інвесціраваць у іх не будуць. Вось чаму яшчэ трэба паскорыць прыватызацыю. У іншым выпадку нашы патэнцыяльныя рынкі зоймуць расійскія і ўкраінскія прадпрыемствы. Цяпер вельмі складана гаварыць аб прыватызацыі буйных прадпрыемстваў, іх неабходна акцыяніраваць, што дасць магчымасць стварыць для іх механізм інвесціравання і развіцця. Трэба таксама заахвочваць прадпрыемствы, якія працуюць на давальніцкіх матэрыялах і камплектуючых — пры наяўнасці рынкаў збыту гатовай прадукцыі.

Нельга не пагадзіцца з думкай некаторых эканамістаў, што многія самастойныя заводы асобных галін у адзіночку выжыць на рынку не змогуць. Што рабіць з імі? Яны павінны ўвайсці ў састаў буйных фірмаў, канцэрнаў, або іх трэба прадаць ці закрыць. На базе закрытых прадпрыемстваў можна ствараць інкубатары прадпрымальніцтва; вытворчыя плошчы можна прадаць па частках, здаць у арэнду або перадаць у карыстанне, унесці ў статутныя капіталы ствараемым ТАА, ЗАТ, АТ і г. д.

Сёння вельмі шмат ідзе размоў і прапаноў адносна прыярытэтаў у прамысловасці. Асабліва многа аб гэтым гавораць тыя, хто «блізкі» да ўлады. Прыярытэтнымі ж, на мой погляд, павінны стаць канцэрны, групы і аб'яднанні прадпрыемстваў, якія рэальна кантралююць свае рынкі за межамі СНД, або маюць магчымасць у перспектыве зрабіць гэта. Прыярытэтнымі павінны стаць прадпрыемствы, створаныя на аснове высокіх тэхналогій, і перш за ўсё тыя з іх, хто здольны сам ствараць высокія тэхналогіі, канкурэнтаздольныя машыны і механізмы. У Беларусі склаўся вельмі моцны слой людзей-прафесіяналаў, у першую чаргу спецыялістаў і навуковых работнікаў. Пакуль гэты слой для грамадства незваротна не страчаны, менавіта гэтыя людзі павінны стаць галоўным прыярытэтам нашай эканамічнай палітыкі. Пакуль жа наадварот — канструктарскія і навуковыя арганізацыі плацяць самыя вялікія падаткі.

Нельга дабіцца поспеху пры правядзенні нават суперэфектыўнай прамысловай палітыкі, калі не будзе забяспечана эканамічная свабода людзей, свабода працаваць без страху зрабіць памылку. Найбольшага росквіту дабіліся менавіта тыя краіны, у якіх найбольш свабодныя эканамічныя адносіны. Паводле даных Сусветнага банка, у 1995 годзе самымі свабоднымі ў эканамічных адносінах былі Сінгапур, Ганконг, Тайвань і некаторыя іншыя краіны. Нам жа праз змяненні ў Канстытуцыю і праз рэферэндум, па сутнасці, спрабуюць навязаць дыктатуру. Дзеючая Канстытуцыя не перашкаджае правядзенню эканамічных пераўтварэнняў, не перашкаджае правядзенню эфектыўнай прамысловай палітыкі.

**Васіль ШЛЫНДЗІКАЎ,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета**
**Рэспублікі Беларусь.**

***Генадзь ПАЛЬЧЫК:***

# «Ліцэй — не фабрыка выдатнікаў, не штампоўка медалістаў... Ліцэй — гэта пачатак універсітэцкай адукацыі»

***У сістэме сярэдніх навучальных устаноў па падрыхтоўцы да вучобы ў ВНУ ліцэй пры Белдзяржуніверсітэце займае асаблівае месца. Звычайна абсалютная большасць выпускнікоў ліцэя (а гэта маецца на ўвазе больш як 95 працэнтаў) садзяцца за парты БДУ, становяцца студэнтамі іншых ВНУ краіны. Хіба ж гэта не ўражальны паказчык? Больш таго — уражальны і для чужаземных рупліўцаў на ніве асветы. Ліцэй пры БДУ быў заяўлены да ўдзелу ў сусветнай канферэнцыі «Глабальныя праблемы школьнага кіравання», якая сёлета праводзілася ў Швецыі, паблізу Стакгольма. З размовы пра канферэнцыю і пачаўся наш дыялог з Генадзем Уладзіміравічам Пальчыкам, які і быў удзельнікам, прадстаўляў ліцэй і Беларусь.***

**— Скажыце, які механізм прыцягнення якой бы там ні было школы да ўдзелу ў канферэнцыі «Глабальныя перспектывы школьнага кіравання»?**

— Па-першае, крышачку пра саму навукова-практычную канферэнцыю, пра заснавальнікаў яе. Канферэнцыя, у адрозненне ад нашых аднаразовых мерапрыемстваў, уяўляе сабой пастаянна дзеючы інстытут. Трапіўшы аднойчы ў шэрагі яе ўдзельнікаў, аўтаматычна становішся, скажам так, яе пастаянным сябрам. Навучальную ўстанову ўключаюць у міжнародны каталог, падаюць самую падрабязную інфармацыю. І гэта не проста рэклама, а як быццам знак якасці, рэкамендацыйны знак. Менавіта дзякуючы ўключэнню ў каталог развіваюцца шырокія разнастайныя міжнародныя кантакты. Заснавальнік канферэнцыі альбо інстытута «Глабальныя перспектывы школьнага кіраўніцтва» — універсітэт штата Фларыда (ЗША) сумесна з еўрапейскім педагагічным супольніцтвам.

**— Дарэчы, адкуль удзельнікі, з якіх краін свету?**

— Усяго лепшымі прызнана каля 500 школ, калектываў, ліцэяў, міжнародных школ і аб'яднанняў, якія ставяць перад сабой задачы па падрыхтоўцы да паступлення ў ВНУ, па рабоце з таленавітай моладдзю. І з самых розных дзяржаў. Амаль палову складаюць школы ЗША.

Удзел у канферэнцыі прадугледжвае аб'яднанне намаганняў лепшых практыкаў свету ў сферы падрыхтоўкі да вучобы ў ВНУ. Але ж удзел у гэтым, скажам так, форуме адкрыты не для кожнага. Прывяду прыклад з уласнага вопыту. Перш чым паехаць на канферэнцыю, мы адправілі яе арганізатарам самую падрабязную інфармацыю пра ліцэй. І ў адказ прыйшло запрашэнне. Відавочна, паказчыкі (а мы ніякім чынам не парушалі законаў праўды і аб'ектыўнасці) уразілі. Нам прадаставілі месца для ўдзелу з правам на прэзентацыю ліцэя. Дарэчы, заўважу і тое, што затраты на паездку былі кампенсаваны арганізацыйным саветам канферэнцыі.

**— Генадзь Уладзіміравіч, і ўсё ж якімі матэрыяламі кіраваліся, паверыўшы і вашай папярэдняй самаацэнцы, ды і, магчыма, пераправерыўшы інфармацыю нейкім чынам, у прыняцці рашэння — запрасіць ліцэй з невядомай свету Беларусі з пункту гледжання адукацыі да свайго стала альбо сціпла прамаўчаць у адказ на няпрошаны стук у дзверы?**

— Лічу, што арганізатары ўлічвалі два асноўныя моманты. Першы (што вельмі важна) — там, за мяжой, нягледзячы на ўсё, што суправаджаецца бляскам замест праўды, прывыклі верыць напісанаму, сказанаму. Другі — міжнародныя кантакты ліцэя — у свеце, у Еўропе ўжо ведаюць, які ўзровень падрыхтоўкі за спінамі ліцэістаў Беларусі. На чужаземцаў надзвычай вялікі ўплыў зрабіла веданне таго факта, што летась, у прыватнасці, на Міжнароднай вучнёўскай алімпіядзе выпускнікі ліцэя «ўзялі» дзесяць медалёў як пераможцы. У такое ім цяжка было паверыць. І яшчэ больш уразіла удзельнікаў канферэнцыі самая свежая інфармацыя: сёлетні «ўраджай» ліцэістаў на міжнародных алімпіядах — дзесяць медалёў. І гэта ж з аднной навучальнай установы?!!

**— Замежныя калегі цікавіліся, за кошт чаго, дзякуючы якім незвычайным методыкам беларусы дамагаюцца такога поспеху?**

— Безумоўна, я звярнуў на прэзентацыі ліцэя ўвагу на наступную акалічнасць. Можна даць вучню дваццаць гадзін біялогіі і г. д. на тыдзень, альбо гэтульки ж матэматыкі — глядзіш, наўмысныя высілкі прынясуць большы плён. Але ж я даказаў калегам, прафесіяналам, ад якіх няма сэнсу нешта хаваць, што пяцьдзесят працэнтаў нашых вучэбных планаў складаюць прадметы гуманітарнага цыкла.

**— «Глабальныя перспектывы школьнага кіраўніцтва». І што тут схавана?**

— Пытанні менеджменту. Арганізацыя, а не толькі змест адукацыі. Вынікі закладзены ў кангламераце «старэйшае школьніцтва — ВНУ». Для амерыканцаў, еўрапейцаў здавалася недасягальным, не паддавалася разуменню, як гэта так — прыкладна трыццаць працэнтаў выкладчыкаў у нас з ВНУ, са школьнікамі вядуць заняткі ўжо як са студэнтамі.

**— Няўжо ва ўсім астатнім свеце да гэтага не дадумаліся?**

— Чаму не? Але там адсутнічае сістэма. Тут мы унікальныя. Але ж нашы два ліцэісцкія гады — зусім не падрыхтоўчае аддзяленне, а сістэма падрыхтоўкі, якая пабудавана на патрабаваннях ВНУ. Але планка іх звязана з карэкціроўкай, праекцыяй адукацыі на звычайных школьнікаў. Аналізуючы памылкі ўжо студэнтаў, выкладчык бачыць, што яны прапусцілі ў школе.

**— Словам, арганізацыя адукацыі ўзята з ВНУ, нутро ж, змест яшчэ школьныя... Ідзе барацьба за больш эфектыўнае засваенне зместу. Ці не так?**

— Я крыху ўдакладніў бы. Памятаеце, у інстытуце нам гавораць: «Тое, чаму цябе навучылі ў школе, забудзь». А следам — на заводзе: «Тое, чаму цябе вучылі ў інстытуце, — непатрэбшчына. Забудзь, вучыся наноў, вучыся на практыцы». Дык гэта ж трэба ліквідаваць, наладзіўшы пераемнасць адукацыі. Тут варта згадаць і філасофскую катэгорыю адмаўлення адмаўлення. Як быццам я пераходжу штораз на новую прыступку — значыць, ранейшае трэба пакідаць, але ж самае вартае, самае станоўчае, самае патрэбнае я павінен забраць з сабою. З другога боку адбываецца пераход колькасці ў якасць. Але ж як усе гэтыя правільныя ісціны ўвасабляць, рэалізоўваць? Пераемнасць ёсць яшчэ і бесперапыннасць, трывалая сувязь асобных звёнаў. Вось у гэтым і сакрэт — у трываласці аб'яднання, бесперапыннасці адукацыі.

**— Прабачце, што перабіваю. Але мы па галоўнаму паказчыку — працэнт паступлення ў ВНУ — абыходзім нашых патэнцыяльных настаўнікаў. Чаму ж тады вучыцца?**

— Што ж, рацыянальнае пытанне. Яшчэ зусім нядаўна я быў прыхільнікам такой тэорыі і практыкі: «Пяцьдзесят на пяцьдзесят». У гэтай формуле — суадносіны, хто ў каго і ў якой ступені павінен вучыцца. Сёння я думаю інакш. Працэнтныя суадносіны: «семдзесят пяць і дваццаць пяць...». Аналізуючы сістэму адукацыі на Захадзе, лічу, што болей яны павінны вучыцца ў нас. Што ж датычыць нашай «ахілесавай пяты», то, вядома ж, гэта нізкі ўзровень матэрыяльна-тэхнічнай базы навучання. Нашы выкладчыкі маюць агромністы патэнцыял, гатовыя ўносіць мноства дапаўненняў у методыку. Але колькі ідэй, задум застаюцца няспраўджанымі толькі з-за аднаго: нестае магчымасцей набраць, аддрукаваць, размножыць, ксеракапіраваць. На Захадзе ж зусім не праблема мець ці не ў кожнай школе арыгінальны, адметны падручнік. Існуе іншая праблема — хто яго падрыхтуе, напіша. У нас жа — наадварот: патэнцыял ёсць, няма магчымасцей яго ўвасобіць.

...Чым яшчэ цікавая і патрэбная канферэнцыя? Дзякуючы адкрыццю іншых, чужых сістэм адукацыі з'яўляецца шанц уважліва разгледзець сябе ў люстэрку. І не ў крывым, а ў нармальным, аб'ектыўным.

Гэта якраз там, у Швецыі, я як ніколі асэнсаваў для сябе наступную формулу. Ліцэй — гэта зусім не фабрыка выдатнікаў, не штампоўка медалістаў... Ліцэй — гэта пачатак універсітэцкай адукацыі. Але не рэпетытарства за кошт дзяржавы. Асэнсаваць, зразумець гэта — вось задача першачарговая. І мы якраз знаходзімся на шляху асэнсавання, разумення гэтай ісціны.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# ВЫДАННЕ, ПАТРЭБНАЕ ЎСІМ І КОЖНАМУ

***Выйшаў з друку трэці том унікальнай фундаментальнай працы — «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак» у пяці тамах***

**Айчынная і навуковая грамадскасць, а таксама ААН і ЮНЕСКО станоўча ацанілі выданне атласа. Ён з'яўляецца капітальнай эпахальнай працай вялікага нацыянальнага значэння. У еўрапейскіх краінах такія атласы былі апублікаваны больш за сто гадоў назад.**

Матэрыялы Лексічнага атласа (1791 карта, больш за 25580 лексічных адзінак) маюць найбольшую аб'ектыўнасць у плане многааспектнасці даследавання лексікі беларускіх народных гаворак і пры народаапісанні з боку іх паходжання, спецыфікі развіцця. Ён назаўсёды застанецца найаўтарытэтнейшым даведнікам для ўзгаднення пытанняў унармавання беларускай літаратурнай мовы і культуры мовы, а таксама пры распрацоўцы і ўдасканаленні беларускай тэрміналогіі ў розных галінах навукі, тэхнікі, культуры і народнай гаспадаркі.

Для міжнароднай супольнасці каштоўнасць атласа ў яго унікальнасці і непаўторнасці з-за чарнобыльскай бяды. Паўтарыць збіранне матэрыялу ўжо немагчыма на трэцяй частцы Рэспублікі Беларусь. У атласе шырока прадстаўлены матэрыялы пра этнічную спецыфіку беларусаў, пра генетычныя асаблівасці іх мыслення і светаўспрымання. Упершыню лінгвагеаграфічным спосабам, у комплексе ў атласе перадаюцца характэрныя рысы адной са старажытных славянскіх моў, якой з'яўляецца беларуская мова. Аднак здарылася так, што яна з'яўляецца малавядомай (экзатычнай) мовай у Еўропе. Багатыя матэрыялы атласа неабходны для вырашэння праблемы прарадзімы славян, балтаў сярод іншых народаў Еўропы. У атласе ўтрымліваецца матэрыял і дыяхранічнага плана. Ён цікавы і для вырашэння пытанняў пазнейшых субстытуцый, як польскай, так і рускай, часткова ўкраінскай. Беларусь наогул знаходзіцца на стыку інтэнсіўнага ўзаемадзеяння моў еўрапейскага кантынента.

Нельга абысціся без матэрыялаў атласа пры даследаванні тэкстаў старажытнарускай, старабеларускай, стараўкраінскай і старапольскай моў.

Беларускі Лексічны атлас адпавядае патрабаванням комплекснага даследавання моў Еўропы. Ён увязваецца з усімі атласамі еўрапейскай прасторы. Традыцыйная тэматыка карт (раслінны і жывёльны свет, сельская гаспадарка, чалавек, побыт, значэнне слоў, націск) з аб'ектыўнай дэталізацыяй і канкрэтызацыяй матэрыялаў будзе спрыяць раскрыццю глыбінных лінгвістычных праблем, якія пастаўлены ў Агульнаславянскім лінгвістычным атласе і ў Лінгвістычным атласе Еўропы.

Усё гэта і многае іншае дае падставу разглядаць і сцвярджаць, што «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак» у пяці тамах ужо цяпер мае выключнае навуковае значэнне, з'яўляецца значным навуковым укладам у еўрапейскую і сусветную лінгвагеаграфію.

Цяпер у друку знаходзіцца чацвёрты том атласа. Практычна поўнасцю падрыхтаваны пяты. Аднак стваральнікі атласа, яго выдаўцы (а асноўным з іх з'яўляецца Беларускі рэспубліканскі фонд фундаментальных даследаванняў) занепакоены недахватам сродкаў на выданне гэтай унікальнай і такой патрэбнай нашай маладой дзяржаве працы. Названы вышэй фонд чакае матэрыяльнай падтрымкі ад дзяржавы, камерцыйных і іншых пазадзяржаўных арганізацый і ўстаноў.

**Аркадзь НАРКЕВІЧ,**
**доктар філалагічных навук, прафесар Белдзяржуніверсітэта.**

***НАПЯРЭДАДНІ***

## «ЗАЛАТЫ ШЛЯГЕР-96»: МАГЧЫМА, ПРЫЕДЗЕ САМ АЗНАВУР

***З 1 па 6 лістапада ў Магілёве пройдзе другі міжнародны музычны фестываль «Залаты шлягер-96». Напярэдадні падзеі карэспандэнт «Звязды» гутарыць з дырэктарам Магілёўскай абласной філармоніі, мастацкім кіраўніком фестывалю Уладзімірам БРАІЛОЎСКІМ.***

**— Кажуць, што першы блін заўсёды камяком. Калі прыгадаць мінулагодні фестываль «Залаты шлягер-96», атрымалася сапраўды так?**

— Сама ідэя фестывалю «Залаты шлягер» аказалася настолькі дакладнай і ёмкай, што ён не стварыў тых складанасцей, якія ўзнікаюць звычайна. «Зоркі» мінулых гадоў крыху працейшыя, крыху цяплейшыя, таму з імі няма тых традыцыйных суперкамерцыйных праблем, якія раз-пораз узнікаюць з сённяшнімі.

Што да атмасферы фестывалю, яго духу, дык яны пераўзышлі ўсе чаканні. Гэта аказаўся не проста, як яго часта называюць, рэтра-фестываль, калі сабраліся людзі старэйшага ўзросту, паслухалі любімыя песні, успомнілі маладосць, паплакалі... Так, усё гэта было. Але задума была ў іншым — зблізіць пакаленні. І я шчаслівы, што яна ажыццявілася, што на першым фестывалі як мінімум трэць усіх гледачоў былі моладдзю, для якой песні мінулых гадоў сталі сапраўдным адкрыццём. На фестывалі раптам высветлілася, што як бы ні арыенталіся мы на Захад сёння, забыцца на айчынны культурны пласт 60—70-х нельга, што ён дагэтуль патрэбны людзям.

Гэта, бадай, і стала падмуркам поспеху «Залатога шлягера-95».

**— Але час глядзець наперад. Адрозненні першага і другога фестывалю — у чым яны?**

— Па-першае, у праграме з'явіўся конкурс маладых выканаўцаў песень мінулых гадоў, прычым сярод саміх удзельнікаў конкурс выклікаў непадробную цікавасць. Па-другое, на фестываль прыедуць новыя «старыя» імёны — вядомыя выканаўцы, якія па тых ці іншых прычынах не здолелі прыехаць летась. І, па-трэцяе, нашы пошукі шляхоў да сучаснага гледача прывялі да таго, што з'явілася дамоўленасць з папулярным тэлевядучым Валдзісам Пельшам аб тым, што запіс дзвюх праграм «Угадай мелодыю» пройдзе ў рамках фестывалю на Беларусі — у Магілёве і Мінску.

**— Такім чынам, праграма фестывалю Магілёвам не абмяжоўваецца?**

— А мы і не ставілі такой мэты. Як і летась, гала-канцэрт фестывалю пройдзе ў Мінску, а самі канцэрты, апроч Магілёва і сталіцы, пройдуць яшчэ ў дзесяці раёнах Магілёўскай вобласці, у тым ліку ў раёнах «чарнобыльскіх» — Чэрыкаўскім, Краснапольскім, Касцюковіцкім і Клімавіцкім. Між іншым, гэта таксама істотнае адрозненне «Залатога шлягера-96».

**— Візітная картка любога фестывалю, безумоўна, яго імёны. Хто прыедзе на Беларусь сёлета?**

— Каб не сурочыць, буду казаць з пэўнай доляй верагоднасці. Дык вось: на сёння дасягнута дамоўленасць аб прыездзе з Валерыем Абадзінскім, Львом Барашкавым, Капіталінай Лазарэнка, Іонам Суручану, а таксама з ужо добра знаёмымі магіляўчанам па «Залатому шлягеру-95» Муслімам Магамаевым, Уладзімірам Трошыным, Юрыем Багацікавым, Ігарам Лучанком. Запрошаны вядомыя гурты «Чырвоная рута», «Доктар Ватсан». Сапраўднай «іскрынкай» стане вяртанне на радзіму Вадзіма Мулермана — папулярнага спевака 60-х, які ўжо даўно жыве ў ЗША.

Нарэшце, гледачоў чакае яшчэ адзін сюрпрыз: магчыма, на Беларусь прыедзе славутая французская «зорка» Шарль Азнавур. Прынамсі, вусная дамоўленасць на ўзроўні пасольства на гэты конт ужо ёсць.

**— Прадстаўніцтва ўнушальнае. Але ці не стане перашкодай для арганізатараў наша традыцыйная апошнім часам праблема — сродкі. Калі ўзгадаць шэраг скандалаў з запрашэннем «зорак» эстрады ў Мінск, пытанне, згадзіцеся, зусім не выпадковае...**

— Я не думаю, што на «Залатым шлягеры-96» могуць паўтарыцца мінскія падзеі. Крыніцы фінансавання ў фестывалю надзейныя — магілёўскія абл- і гарвыканком, Міністэрства культуры, Прэзідэнцкі фонд. Прычым такі падыход — гэта не нейкая спроба перакласці ўсе праблемы на дзяржаву, а неабходнасць. Мы не можам рабіць білеты надта дарагімі, бо ў адваротным выпадку на канцэрты не трапяць тыя людзі (заўважым, далёка не заможныя), для якіх арганізуецца сам фестываль. Больш таго, мы плануем, што ўсе канцэрты фестывалю ў чарнобыльскай зоне Магілёўшчыны пройдуць бясплатна.

**Сяргей ГРЫБ.**

***ПАДРАБЯЗНАСЦІ***

## ВЫКАНКОМ СКАЗАЎ: «ПАТРЭБНА». ЖЭСы «ЎЗЯЛІ ПАД КАЗЫРОК»

**У верасні ў Фрунзенскім раёне беларускай сталіцы прайшоў месячнік «па санітарнай ачыстцы ад бяздомных жывёл». Так ён называўся. Для правядзення на рахунак двух ЖРЭУ паступіла па паўтара мільёна рублёў так званага «ганарарнага фонду».**




На прынесеных насельніцтвам «братоў нашых меншых» існавалі расцэнкі: кот — 8 тысяч, сабака — 13—18 (у залежнасці ад росту). Праўда, за ўвесь месяц было толькі пяць-шэсць разлікаў (у асноўным за катоў, сабак не прыносілі). Мабыць таму, што не было вялікай рэкламнай кампаніі, дарэчы, нават члены Беларускага таварыства аховы жывёл «Ратаванне» даведаліся пра ініцыятыву Фрунзенскага райвыканкома напрыканцы верасня. І адразу пачалі актыўныя дзеянні — 26-га сабраліся каля ЖРЭУ-2, размешчанага на Матусевіча, 46. Людзей прыйшло няшмат, але ўлады звярнулі ўвагу на патрабаванні. Старшыня «Ратавання» Людміла Атрашкевіч расказала мне пра размову з кіраўніцтвам райвыканкома. «Наверсе лічаць, — зазначыла яна, — што падобныя меры вельмі неабходныя для захавання чысціні і парадку ў горадзе. Але ж якімі метадамі? Так, ёсць сведкі страляніны міліцыянерамі ў бяздомных жывёл па вуліцах Заслаўскай, Лынькова не ў сем гадзін раніцы, як патрэбна па ўстаноўленаму правілу, а ў адзінаццаць-дванаццаць. За ўсім гэтым сочаць дзеці. Не здзіўляйцеся тады,



што яны растуць такімі жорсткімі».

Такім чынам, месячнік па адлову застаўся ў мінулым, пакінуўшы не самыя лепшыя ўспаміны. Фонд грошай, выдзеленых ЖРЭУ (за выключэннем прэміі за шасцярых катоў), застаўся амаль некранутым (ёсць матэрыяльная магчымасць аднавіць падобнае мерапрыемства?). Няшчасных жывёл, якіх злавілі работнікі спецаўтагаспадаркі па санітарнай ачыстцы горада і супрацоўнікі міліцыі, адразу вывезлі ў напрамку Ракаўскай шашы (там размешчаны спецыяльныя могілкі). Жыццё, здавалася б, зноў пайшло сваёй каляінай. І ніхто нават увагі не звярнуў на членаў таварыства «Ратаванне», на іх лозунгі, якія зноў узніклі падчас пікета ля Дома прэсы, што заклікалі зазірнуць «братам нашым меншым» у вочы. А не біць іх. Прыстойная мараль...

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

*НА ЗДЫМКАХ: пікетчыкі Беларускага таварыства аховы жывёл каля Дома прэсы; што чакае гэтых бяздомных сабак — куля?*

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**



*Post Factum*

### Гэты дзень у гісторыі

**8 кастрычніка 1871 года** нарадзіўся славуты расійскі спартсмен, заслужаны майстар спорту, неаднаразовы пераможца ў спаборніцтвах па класічнай барацьбе Іван Максімавіч Паддубны.

У гэты дзень **у 1873 годзе** нарадзіўся савецкі архітэктар, акадэмік АН СССР Аляксандр Шчусеў, аўтар Казанскага вакзала ў Маскве, па яго праекту пабудаваны Маўзалей Леніна, гасцініца «Масква».

**8 кастрычніка 1892 года** нарадзілася руская паэтэса Марына Цвятаева.

У гэты дзень **у 1930 годзе** выйшаў у свет першы зборнік вершаў Аркадзя Куляшова «Росквіт зямлі».

**8 кастрычніка 1932 года** нарадзіўся Іван Пташнікаў, вядомы беларускі пісьменнік, аўтар многіх раманаў і аповесцей аб жыцці беларускай вёскі.

**8 кастрычніка 1936 года** нарадзіўся Леанід Кураўлёў, вядомы акцёр, які, у прыватнасці, сыграў ролю Шуры Баганава ў кінафільме «Залатое цяля».

### А яшчэ быў выпадак...

***Запарожскі п'яніца Ігар Каліцюк доўга прасіў міласціну ля ларкоў на прывакзальнай плошчы, пакуль усім не надакучыў. Падаваць яму перасталі.***

Яшчэ нейкі час грошы кідалі сямігадоваму сыну Каліцюка, але і хлапчука, які тут жа перадаваў выпрашанае п'янаму бацьку, таксама неўзабаве выкрылі. Пасля гэтага Каліцюк кудысьці знік, а замест яго каля ларкоў стаў ашывацца руды дварняк. Худы, як смерць, сабака падыходзіць да пакупнікоў і тыркаецца ў руку вільготным носам. Людзі спачатку, вядома ж, палохаюцца, але пасля заўважаюць на шыі ў сабакі мяшочак з таблічкай: «Падайце на харчаванне, мяне гаспадар не любіць». Грошай сабаку мала даюць, але затое шчодра дзеляцца чабурэкамі. Каліцюк тым часам чакае за вуглом. Калі торбачка напаўняецца, сабака нясе яе гаспадару, ведаючы, што выпрашанае яны падзеляць папалам. Чабурэкі, якія застаюцца, Каліцюк прадае з рук тут жа, на вакзале, на атрыманыя грошы — п'е. Невядома, праўда, ці адабрае гэта сабака.

### Дзесьці на белым свеце

***Калі матор невялікага самалёта забарахліў, пілот не знайшоў нічога лепшага, як пасадзіць пашкоджаную машыну прама на шашу.***

Ледзь лётчык паспеў перавесці дыханне і выбрацца з кабіны, як да яго пад'ехаў інспектар дарожнай паліцыі і... аштрафаваў яго. Не, не за тое, што той сеў на аўтабан, а за тое, што... перавысіў скорасць на дарозе і не спыніўся на забараняльным дарожным знаку. Убачыўшы штрафную квітанцыю, пілот, які радаваўся, што збярог машыну і не разбіўся сам, раззлаваўся. Інспектар, аднак, на яго шчырае абурэнне ніяк не адрэагаваў: закон ёсць закон. Справа адбывалася ў Германіі, дзе педантычнасць і парадак сталі рысай нацыянальнага характару.

### Як жывём?

***Як паказала апытанне, праведзенае сярод масквічоў фондам «Грамадскае меркаванне», незалежна ад сацыяльнага статусу большасць рэспандэнтаў схіляецца да таго, што жыццё цікавае і захапляльнае.***

Такога пункту гледжання прытрымліваюцца 63 працэнты спецыялістаў, 59 — студэнтаў, 56 — хатніх гаспадынь, 53 — кіраўнікоў, 47 — рабочых, 41 — пенсіянераў. Тых, хто скардзіцца, што жыццё сумнае, не так ужо і шмат: па 15 працэнтаў рабочых і пенсіянераў і 11 працэнтаў — кіраўнікоў вытворчасці. У той жа час 22 працэнты хатніх гаспадынь, 20 — рабочых, 17 — студэнтаў у аднолькавай ступені лічаць сваё жыццё цікавым і сумным адначасова.

### З жыцця вядомых

Эйнштэйн праслухаў аднойчы ў выкананні бельгійскай каралевы Лізаветы скрыпічны канцэрт і выказаў неўразуменне:

— Ваша Вялікасць, вы ігралі настолькі добра, што я асмелюся задаць вам далікатнае пытанне: для чаго вам прафесія каралевы?

### Расказваюць што...

Аднойчы Казлоўскага запрасілі ў Крэмль на банкет. Пасля яго выступлення пачаліся прапановы:

— Выканайце арыю...

— Выканайце раманс...

Умяшаўся Сталін:

— Нельга рабіць замах на свабоду мастака. Таварыш Казлоўскі хоча спець «Я помню чудное мгновенье».

### Анекдот

*Маленькі Ясь доўга не вяртаўся дамоў.*

*— Дзе ты быў так доўга? — спытала мама, калі ён нарэшце з'явіўся.*

*— Я гуляў у паштальёна, разносіў усім нашым суседзям пісьмы.*

*— А дзе ты іх браў?*

*— Яны ляжалі ў тваёй шкатулцы, перавязаныя чырвонай стужачкай.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94.430. Індэкс 63850.
Зак. № 6515.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12